Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год I. Вільня, Субота, 12 ліпня 1919 г. № 43.



# ЭНДЭЦЫЯ АБ НАС.

«Што датычыць беларусоў, то ўсялякія споры на тэму аб тым, ці ёсьць то народ аддзельны, ці ён зьяўляецца толькі пряжутачный фазай паміж палякамі і расейцамі,—абсалютна напрасны. Разрашэньне гэтага пытаньня трэба аставіць будучнасьці, стараючыся адзіна аб тым, сагласна традыцыйнай польскай талеранцыі, каб ні чым не перашкодзіць берарусам да эвентуальнай эвалюцыі ў кірунку племянной асобнасьці, з другога, аднак, боку, уникаючы штучнага рабеньня беларусоў праз палякоў, ва імя так званай «высшай палітыкі».

Так піша «Дзеньнік Віленскі» (№ 67), для каторага яшчэ ня ясна, ці беларусы—народ, ці прамяжутачная фаза паміж палякамі і расейцамі.

Добра сказана—прамяжутачная фаза! Вось дык атэстацыя беларускага народу. Прамяжутачная фаза! Не народ, а так сабе нешта сярэдняе: Ні людзі, ні быдла.

«Дзеньнік Віленскі»—таксама проціў «штучнага рабеньня беларусоў праз палякоў».

Дзякуем за ласку.

Дай Божа, каб толькі паны эндэцыя адмовіліся штучна перарабляць беларусоў на палякоў і пячатаць ў «Дзеньніку Віленскім» пэтыцыі «сыноў зямлі» Беларускай аб тым, што яны палякі, а не прамяжутачная фаза.

Вельмі цэнна у цытаванай намі стацьці «Дзеньніка Віленскага» і тое, што сярод палякоў ён не называе ніводнай партыі і навет маленькай групы, каторая-б стаяла на грунце незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі.

Ахвотна верым «Дзеньніку Віленскаму». У гэтым мы ўжо праканаліся пасьля галасаваньня польскага сойму аб «плебісцыце дарогаю выбараў у Віленшчыне і Горадзеншчыне».

**Янка.**

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генеральнага Штабу.

*8 ліпня.*

**Галіцыйска - Валынскі фронт.**

На вучастку Рафалаўкі мы забралі пасьля заўзятых бояк Вараж, Палоку, Забалоцьце і зялезнадарожную станцыю Рафалаўку, захапіўшы палонных і некалькі поездных саставаў з непапсаванымі паравозамі. У Галіцыі без перамены.

**Палескі фронт.**

Дзеяльнасьць нашых атрадаў ідзець з посьпехам. Нашы войскі занялі Багданаўку, Лончу і Парахонск. Патрулі дайшлі да Сталіна на поўдзень ад Лунінца.

**Літоўска-Беларускі фронт.**

Атака бальшавікоў на вучастку Сьвянцян адбіта. Нашы атрады высунуўшыяся на лініі Маладэчна—Полацак каля Будслава змусілі здацца ў палон эшэлон бальшавікоў з 400 чалавек, ехаўшых па чыгунцы.

**Дэманстрацыя ў Верхняй Сілезіі.**

САСНОВІЦА, 8 ліпня. У Катовіцах немцы зрабілі на рынку і ў тэатру маніфэстацыю пратэста проціў акупацыі Верхняй Сілезіі францускімі і польскімі войскамі. Палякі зрабілі контр-маніфэстацыю, адціснулі немцаў і напісалі рэзалюцыю ў каторай пішуць, што яны падтрымліваюць прылучэньне да Польшчы і акупацыю Верхняй Сілезіі да плебісцыта французамі.

**У чэхаў новы кабінэт.**

ПРАГА, 7 ліпня. Новы кабінэт лічыць у сябе 3 сацыал-дэмакратаў, 4 нарадных сацыалістаў, 3 аграрыяў і 2 славакоў.

**Зямельнае пытаньне ў Сойме.**

ВАРШАВА. На пасяджэньні 8 ліпня сойм прыняў на другім чытаньні праэкт аграрнай рэформы, за выняткам 6 ст. аб максімуме індывідуальнага валаданьня зямлёй. Стацьця гэта передана ў зямельную камісію, якой запрапанована абгаварыць усе папраўкі да гэтай стацьці у 24 гадзінны срок. Ст. 7, прапануючая зрабіць лясы дзяржаўнай уласнасьцю, прынята большасьцю 203 проціў 158.

**Бітвы у Крымскім кірунку.**

ПАРЫЖ, Кар. «Св. Сл.» піша, што пасьля заняцьця Кацярынаславу і Марыупалю, левая група арміі ген. Дэнікіна наступае на Крым. Пасьля двухднёвай бітвы каля ст. Фёдараўка, у часе якой бальшавікі страцілі каля 2000 забітымі і раненымі, атрады Дэнікіна блізка прысунуліся да перашэйку каля Нова-Аляксеўкі. З другога боку, каля перакопу знаходзіцца вялікі атрад атамана Грыгор'ева, які так сама як і Махно, працуе цяпер разам з Дэнікіным. Такім чынам бальшавікі на Крымскім палуостраве знаходзяцца ў мышалоўцы. Севастопальскія матросы двойчы пасылалі да

